# ЭНЦЫКЛІКА

СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА

ПАПЫ ПІЯ XII

ДАСТОЙНЫМ БРАТОМ ПАТРЫЯРХАМ,

ПРЫМАТАМ, АРХІБІСКУПАМ,

БІСКУПАМ І ІНШЫМ МЯЙСЦОВЫМ АРДЫНАРЫЯМ,

ШТО Ў МІРЫ І ЛУЧНАСЬЦІ З АПОСТАЛЬСКІМ ПАСАДАМ

З НАГОДЫ

350-ых УГОДКАУ

ПРЫЯДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ І УКРАІНСКАЕ

ЦАРКВЫ ДА АПОСТАЛЬСКАГА ПАСАДУ



РЫМ — 1946

# ЭНЦЫКЛІКА

СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА

ПАПЫ ПІЯ XII

ДАСТОЙНЫМ БРАТОМ ПАТРЫЯРХАМ,

ПРЫМАТАМ, АРХІБІСКУПАМ,

БІСКУПАМ І ІНШЫМ МЯЙСЦОВЫМ АРДЫНАРЫЯМ,

ШТО Ў МІРЫ І ЛУЧНАСЬЦІ З АПОСТАЛЬСКІМ ПАСАДАМ

З НАГОДЫ

350-ых УГОДКАЎ

ПРЫЯДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ І УКРАІНСКАЕ

ЦАРКВЫ ДА АПОСТАЛЬСКАГА ПАСАДУ



РЫМ — 1946

ДАСТОЙНЫМ БРАТОМ ПАТРЫЯРХАМ, ПРЫМАТАМ, АРХІБІСКУПАМ, БІСКУПАМ ДЫ ІНШЫМ МЯЙСЦОВЫМ АРДЫНАРЫЯМ, ШТО Ў МІРЫ І ЛУЧНАСЬЦІ З АПОСТАЛЬСКІМ ПАСАДАМ

# ПАПА ПІЙ XII

## ДАСТОЙНЫЯ БРАТЫ

Прывет Вам і Апостальскае Багаслаўленьне!

Як сьведчыць гісторыя, Рымскія Архірэі заўсёды адносіліся з найбольшаю любоўю да ўсіх усходніх Цэркваў, і з цяжкім сумам пераносілі іх адыход ад аднае аўчарні, „ не з якіх людзкіх меркаваньняў, але з любові да Бога і з дбаньня аб агульным збаўленьні “ [1] і заклікаючы іх раз-по-раз, каб чымхутчэй вярнуліся да тае еднасьці, ад якое так няшчасна адбіліся. Бо яны пэўныя і прakананыя, што з такога шчасна адноўленага зьяднаньня, зродзяцца плады для ўсяго хрысьціянства, а перадусім для самых Усходнікаў; бо поўная і дасканальная еднасьць усіх хрысьціян містычнаму целу Ісуса Хрыста ды паасобным яго чэлясам ня могуць ня прыспорыць вялікага ўзросту.

Тут трэба адцеміць, што ўсходнім хрысьціянам няма чаго баяцца, што быццам пасьля аднаўленьня еднасьці веры і кіраўніцтва давядзецца ім выракацца сваіх законных абрадаў і звычаяў. Гэта ўжо ня раз ясна і выразна падчырквалі Нашы Папярэднікі. „ Няма чаго сумнявацца, што праз гэта Мы, ці Нашы Наступнікі штонебудзь адбяром з вашага права, з патрыяршых прывілеяў, з абрадавых звычаяў якоенебудзь Царквы “ [2].

---

УВАГА: Назоў “ Rutheni, ruthenus „, ужываныя ў афіцыяльным лацінскім тэксьце энцыклікі “ Orientales omnes „ для азначэньня беларускага і украінскага народаў паводля калішняе тэрміналёгіі, у гэтым беларускім перакладзе заменена сучаснаю тэрміналёгіяю паводля кантэксту.

---

[1] Леў XIII, Апост. Ліст “ Praeclara gratulationis „ з дня 20 чэрвяня 1894 Акты Льва XIII, Том XIУ ст. 201.

[2] Леў XIII.

Хоць ня прысьпеў яшчэ той шчасны дзень, калі-б маглі Мы ўсе усходнія народы, як вернуцца да аднае аўчарні, прыгарнуць да нашых бацькаўскіх грудзей, аднак з радасьцю прыглядаемся, як шмат сыноў з гэтых краёў, прызнаўшы пасад сьв. Пятра за цьвярдніцу каталіцкага адзінства, вельмі шчыра гэтае адзінства сьцерагуць ды ўзмацоўваюць.

Між імі міла нам сягоньня ўспомніць асабліва грэка-каталіцкую Царкву, ня толькі таму, што пераважае лікам верных ды змаганьнем за веру, але і дзеля таго, што мінае 350-я гадавіна, адкалі яна зноў у лучнасьці з Апостальскім Пасадам. У першую чаргу гадавіну тае шчаснае падзеі павінны сьвяткаваць тыя, чыё гэта дзела, але уважаем за карыснае прыпомніць гэта ўсім католікам, каб за той сьветлы дар зладжылі Богу вялікую падзяку ды супольна з намі шчыра Яго малілі, каб літасьціва злагодзіў тым любым народам сучасную ліхую гадзіну і прынёс палёгку ды каб ласкава захаваў іх сьвятую пабожнасьць, вытрываласьць і цэласьць веры.

# I

Ня будзе, здаецца, Дастойныя Браты, бескарысным коратка і зьвязла паводля гісторыі высьвятліць падзеі у гэтым нашым Пасланьні, аб якіх тут мова. Перш-на-перш трэба адцеміць, што яшчэ перад 1595 і 1596 гадамі калі ў шчасьлівую хвіліну было дакананае ў Рыме злучэньне Беларусаў і Украінцаў з Апостальскім Пасадам ды пацьверджана ў Берасьці, гэтыя народы ня раз аглядаліся на Рымскую Царкву, як на адну Маці ўсяе хрысьціянскае супольнасьці ды забавязаліся ў сумленьні да паслухмянасьці ёй і пашаны. Так напрыклад слаўны князь сьв. Уладзімір — якога амаль усе ўсходнеславянскія народы уважаюць галоўным дзеячам у справе іх наверненьня на хрысьціянскую веру — хоць і ўзяў ад усходняе Царквы літургічныя абрады і цэрэмоніі, сьведамы свайго становішча, ня толькі стаяў да канца ў адзінстве з каталіцкаю Царквою, але і рупіўся аб узаемных суадносінах між Апостальскім Пасадам і сваею дзяржаваю. Ня мала князёў з яго роду і пасьля адарваньня цяжкою схізмаю царгародзкае Царквы, прыймалі з належнай пашанай Рымскіх Архірэяў ды былі ў брацкіх адносінах з іншымі каталіцкімі супольнасьцямі.

I дзеля таго згодна з найдаўнейшаю традыцыяю беларуска-украінскае Царквы паступіў Ізыдар, мітрапаліт кіяўскі і ўсяе Русі, калі ў 1439-м годзе на ўсеагульным саборы ў Флярэнцыі падпісаў дэкрэт, якім грэцкая Царква ўрачыста злучалася з лацінскаю. Аднак вярнуўшыся з сабору, хоць і быў радасна спатыканы ў Кіяве, у сваёй пачэснай сталіцы, то аднак пасьля быў запраторaны ў Маскоўскую вязьніцу, адкуль мусіў ратавацца ўцёкамі і пакінуць край.

Аднак памяць аб шчасьлівым злучэньні беларусаў і украінцаў з Апостальскім Пасадам з бегам часу не загінула, хоць шмат было у тым ліхалецьці такіх падзеяў, якія-б маглі яе зусім зацерці. І так ведама, што ў 1458г. царгародзкі патрыярх Рыгор Маммас высьвяціў у гэтым славутым горадзе Рыгора на мітрапаліта для беларусаў і украінцаў у Вялікім Літоўскім Княстве. Ведама так-жа, што адзін другі наступнік таго мітрапаліта рабіў захады адсьвежыць нанава адзінства з Рымскаю Царквою, нажаль дрэнныя абставіны не дазвалялі яўна агаласіць тую еднасьць.

Пад канец ХУІ стагодзьдзя штодня больш ды больш рабілася ясным, што жаданае абновы і рэформы для беларускае і украінскае Царквы, прыгнобленае цяжкою бядою, ніадкуль было спадзявацца, як толькі з аднаўленьня лучнасьці з Апостальскім Пасадам. Нават самы нязьедналыя гісторыкі апісваюць і выразна прызнаюць вельмі жалюгодны стан гэтае Царквы. Так сама беларуская і украінская шляхта сабраўшыся ў Варшаве 1585г. у жывых і горкіх словах скардзілася свайму мітрапаліту і заявіла, што іх Царква знайходзіцца ў такіх злыбядах, у якіх ня была ніколі дагэтуль, ані хіба і ў прышласьці ня будзе.

Яны нават не пабаяліся абжалаваць і кінуць цяжкія абвінавачаньні на самога мітрапаліта, біскупаў і манастырскіх настаяцеляў. А праз гэта, што сьвецкія паўставалі супроць ерархіі, ясна паўставаў не малы заняпад у царкоўнай дысцыпліне.

Нічога дзіўнага, што ўканцы самыя духоўныя ерархі, пасьля таго як выпрабавалі бяз выніку усякія рады, прыйшлі да таго выснаўку, што адзіная надзея беларускае і украінскае Царквы — паяднацца з Каталіцкаю. Князь Кастусь Астрожскі — а на ўсёй Русі ня было магутнейшага за яго — у тым часе спрыяў так-жа такому павароту, але такім чынам, каб уся Усходняя Царква прыстала да Заходняе. Але пасьля, калі пабачыў, што гэты плян

ня пойдзе так, як яму жадалася, вельмі востра выступіў супроць адновы такога злучэньня. Аднак мітрапаліт і шэсьць біскупаў пасьля ўзаемнае нарады выдалі супольную заяву дня 2. сьнежня, 1594г. што яны гатовы на згоду і еднасьць. Да гэтае думкі мы дайшлі — пісалі яны — „ разважыўшы з вялікім нашым болем, колькі гэта перашкодаў да збаўленьня маюць людзі без тае еднасьці Божых Цэркваў. у ёй-жа, пачынаючы ад Хрыста, Спаса нашага, і Яго сьвятых апосталаў нашы папярэднікі прытрымоўваліся ды вызнавалі аднаго найвышэйшага Пастыра і першага Зьверхніка ў Царкве Божай тут на зямлі — як гэта ясна паказваюць нам саборы і каноны — ды не каго іншага акрамя Сьвяцейшага Папы Рымскага. Яго слухаліся ўва ўсім, і як доўга гэта было ў сваёй сіле, заўсёды ў Божай Царкве быў лад і расла богапашана “. [3]

Пакуль аднак змаглі шчасьліва ажыцьцявіць той пахвальны намер, яшчэ былі патрэбныя доўгія і вельмі цяжкія перагаворы. Урэшце пасьля таго, як дня 22 верасьня 1595 ў імені ўсіх беларускіх і украінскіх біскупаў была выдана новая заява такога самага роду, у канцы верасьня справа дайшла да таго, што луцкі біскуп, экзарх царгародзкага патрыярха, Кірыла Тэрлецкій і ўладзімерскі біскуп Іпацій Пацей як прадстаўнікі ўсіх іншых біскупаў маглі выбрацца ў Рым. Тагды прынесьлі з сабою дакумант з умовамі, на якіх уся беларуска-украінская царкоўная ўлада гатова была прыняць еднасьць. Наш Папярэднік с.п.Клімэнт УІІІ прыняў паслоў з вялікаю прыхільнасьцю, а прынесены дакумант даручыў уважна спраўдзіць і разважыць кардынальскай радзе. Хутка распачаліся перагаворы што да тае справы, якія дайшлі нарэшце шчасьліва да жаданага канца 23 сьнежня 1595 г. Тыя самыя паслы, дапушчаныя да Сусьветнага Архірэя паміж шматлікага збору падалі Яму заяву ўсіх біскупаў ды ў сваім і ўсіх іншых імені зложылі ўрачыстае вызнаньне веры і прыраклі належны послух і вернасьць.

Таго самага дня Наш Папярэднік Клімэнт УІІІ Апостальскаю Пастановаю „ Вялікі Госпад і вельмі годны славы “ [4] для радасьці ўсяго сьвету агаласіў вестку аб гэтай радаснай падзеі. З якою радасьцю і з якою прыязьню прыняла Рымская Царква беларускі

[3] Бароній, Гадавікі, т.УІІ.Рым 1596, Дадатак ст.681.

[4] А. Тайнэр, Старыя памяткі Польшчы і Літвы. т.ІІІ. стр 240 і дал.

і украінскі народы, прыстаўшыя да аднае аўчарні, відаць з Апостальскага Пасланьня „Хай будзе багаславенны пастыр“ з дня 7 лютала 1596г. У ім Сусьветны Архірэй паведамляе мітрапаліта ды іншых беларускіх і украінскіх біскупаў аб шчасна асягненым зьеднаньні і злучэньні ўсяе іх Царквы з Апостальскім Пасадам. У тым лісьце Рымскі Архірэй, перaказаўшы коратка падзеі і перагаворы ў гэтай справе ў Рыме ды праславіўшы ўдзячным сэрцам справу дакананую з Божае ласкі, апавесьціў, што звычаі беларускае і украінскае Царквы і яе законныя абрады можна захоўваць бяз зьмены. „Абрады-ж цэрэмоніі вашыя, што не пярэчаць цэласьці каталіцкае веры і ўзаемнай нашай лучнасьці, так сама як гэта дазволіў затрымаць флёрэнтыйскі Сабор, Мы так-жа дазваляем“.[5] Далей кажа, што ён прасіў у ласкавага польскага караля, каб ня толькі захацеў апекавацца біскупамі і іх маемасьцю, але так-жа адзначыць іх найвышэйшымі пачэснасьцямі, ды згодна з іхным жаданьнем паклікаць іх у Каралеўскі Сэнат. Уканцы пабрацку заклікае тых царкоўных ерархаў чымхутчэй зыйсьціся на сабор усяе правінцыі і там прыняць ды зацьвердзіць злучэньне беларусаў і украінцаў з каталіцкаю Царквою.

Гэты сабор адбыўся ў горадзе Берасьці: у ім удзельнічалі ня толькі беларускія ды украінскія біскупы і шмат іншых царкоўных людзей з каралеўскімі пасланьнікамі, але так-жа і лацінскія біскупы львоўскае, луцкае і холмскае дыяцэзыяў, як асабістыя прадстаўнікі Рымскага Архірэя. І хоць львоўскі і пярэмыскі біскупы нажаль адракліся ад данае імі згоды, усё-ж 8-га кастрычніка 1596г. было шчасьліва пацьверджана і абвешчана зьеднаньне беларускае і украінскае грамадзкасьці з каталіцкаю Царквою. Трэба было спадзявацца, што гэтая згода і злучэньне, што так вельмі адказвала патрэбам беларускага і украінскага народаў, пры аднязгоднасьці ўсіх дасьць багатныя плады.

Але прыйшоў „чалавек-вораг“ і „пасеяў куколь паміж пшаніцы“.[6] І вось ці-то праз жаданьне некаторых магнатаў, ці праз палітычныя няпрыязьні, ці ўканцы праз тое, што раней не праведзена належнага павучэньня і падрыхтоўкі духавенства і народу ў гэтай справе, пайшлі зацятыя спрэчкі і доўгатрывалыя

[5] А. Тайнэр: усп. кн. стр. 251.
[6] Мат. 13, 25.

замяшаньні. Часам нават выглядала, што трэба баяцца, каб праз іх гэтая надзейна распачатая справа не захлынулася ў жалюгодны спосаб.

А тое, што гэтак ня сталася на самым пачатку справы з прычыны злыдняў і подступаў ня толькі з боку нязьедналых братоў, але і некаторых каталікоў, трэба заўдзячваць у першую чаргу мітрапалітам Іпацію Пацею і Язэпу Вэляміну Руцкаму. Яны няўтомна стараліся абараніць і пашырыць гэтую справу. Асабліваю іх заслугаю ёсьць тое, што сьвятары і манахі атрымалі багаслоўскую асьвету і маральнае ўзгадаваньне, а ўвесь народ атрымаў здаровую навуку праўдзівае веры.

Да таго ня шмат гадоў пасьля запачаткаваньня, гэтая справа зьеднаньня асьвяцілася мучаніцкаю крывёю: 12 лістапада 1623г. полацкі і віцебскі ахібіскуп, прасьветлы сьвятасьцю жыцьця і апостальскаю руплівасьцю, непераможны змагар за каталіцкую еднасьць Ёзафат Кунцэвіч, якога схізматыкі шукалі зглядзіць із сьвету з найлюцейшаю варожасьцю, упаў прабіты стрэламі, дабіты сакераю. Аднак сьвятая кроў гэтага мучаніка, сталася быццам хрысьціянскім насеньнем, бо самыя забойцы, усе акрамя аднаго, пакуль іх пакарана на голаву, пакінулі схізму ды адракліся свайго злачыну. Таксама трэба прыпісаць заступніцтву гэтага найсьвяцейшага мучаніка, што Мялеці Сматрыцкі, заўзяты спаборнік Ёзафата за полацкі пасад, у 1627г. прывярнуўся да каталіцкае веры. І хоць нейкі час хістаўся то туды то сюды незадоўга стаў адважна бараніць аж да сьмерці заключаны зварот беларусаў і украінцаў на ўлоньне каталіцкае Царквы.

Аднак розныя труднасьці расьлі з году ў год і перабівалі так шчасна запачаткаванае адзінства. Але найгорш было тое, што польскія каралі, якія здавалася зразу, сваею апекаю спрыялі справе, з часам пад націскам вонкавых ворагаў, ды праз нязгоду нутраных партыяў, якіх было ня мала, пайшлі на большыя ўступкі праціўніўнікам каталіцкае еднасьці. Дзеля таго хутка сьвятая справа спынілася, як прызналі самыя беларускія і украінскія біскупы, бяз нічые ўжо абароны. Адны толькі Рымскія Архірэі найпрыязьнейшымі лістамі ды, паводля магчымасьці, дапамогамі, а перадусім праз Апостальскага Нунцыя ў Польшчы, адважна і па–бацькаўску абаранялі беларускю і украінскую Царкву.

Але чым сумнейшыя йшлі часы, тым больш ясьнела дбаласьць беларускіх і украінскіх біскупаў. Яны стараліся і просты народ

навучаць хрысьціянскіх праўдаў і падняць узровень багаслоўскае веды недастаткова асьвечаных сьвятароў і ўканцы манахаў, дзе толькі падупадалі іх абычаі, нанова заахвоціць іх да дысцыпліны і сьвятасьці. Нават калі ў 1632г. вялікую частку царкоўных маемасьцяў прыдзелена навапаўсталай ерархіі нязьеднаных братоў, у дагаворах казакоў з польскім каралём пастаноўлена зьнішчыць адноўленае злучэньне украінцаў і беларусаў з Апостальскім Пасадам, яны і тады ня ўпалі духам, наадварот і далей вытрывала і заўзята баранілі даверанае ім стада.

А Бог, які не дапушчае свой народ залішне мучыцца злыбядамі, уканцы, пасьля заключэньня Андрусаўскага міру ў 1667г. даў беларускай і украінскай Царкве пасьля такіх закалотаў і стратаў спакайнейшыя часы. З настаньнем супакою сьвятая вера зачынала больш разрастацца. Бо прышоў такі прыкладны росквіт хрысьціянскіх абычаяў і веры, што ў тых двох епархіях, якія ў 1596г. жалюгодна былі асталіся адлучаныя ад еднасьці, стаў штодзённа ўзмагацца рух за паваротам да каталіцкае аўчарні з прыхільнасьцю ўсяго агулу. І так шчасна здарылася, што ў 1691г. пярэмыская епархія, а ў 1700г. львоўская епархія зьядналіся з Апостальскім Пасадам, і вось амаль усе беларусы і украінцы, якія былі ў тым часе ў межах Польшчы, уканцы зажылі каталіцкім адзінствам. А гэты росквіт большаў штодзённа і таму з вялікаю радасьцю для Царквы ў 1720г. мітрапаліт і іншыя біскупы беларуска-украінскае Царквы зышліся да Замосьця на сабор, каб супольна параіўшыся, магчыма найлепш зарадзіць штораз большым патрэбам вернікаў. Пастановы гэтага сабору, зацьверджаныя Апосталькаю Канстытуцыяю Нашага Папярэдніка с. п. Бэнэдыкта XIII „Апостальскі Чын“ з дня 19 ліпеня 1724г. прынесьлі беларускай і украінскай грамадзкасьці ня мала карысьці.

Але паводля неразгаданага Божага суду пад канец 18-га стагодзьдзя гэтая самая грамада зачала цярпець прасьлед і гнобленьне, якія пасьля разбораў Польшчы на землях прылучаных да расейскае Імпэрыі, ад часу да часу ўсё горш завастраліся. А пасьля сьмерці цара Аляксандра І знарок і нахабна было задумана разьбіць зусім еднасьць беларусаў і украінцаў з Рымскім Пасадам. Ужо раней епархіі з гэтым насельніцтвам былі амаль што зусім адрэзаныя ад ўсякіх зносінаў з Апостальскім Пасадам. Да таго тады-ж на біскупаў выбралі такіх, што перанятыя і апанаваныя схізмаю, маглі-б стацца паслушнымі прыхільнікамі

сьвецкае ўлады. У віленскай сэмінарыі, заснаванай царом Аляксандрам І, багасловам абодвых абрадаў выкладалася навука варожая Рымскім Архірэям; Базыльянскі чын, якога сябры заўсёды былі вялікаю помаччу ў каталіцкай Царкве ўсходняга абраду, быў пазбаўлены ўласнае ўлады і ўправы, а манахаў і манастыры зусім падпарадкавана біскупскім кансысторыям; нарэшце сьвятаром лацінскага абраду пад цяжкімі карамі было забаронена ўдзяляць беларусам і украінцам сьв. Тайны ды іншыя рэлігійныя паслугі, а ўканцы ў 1839г. нажаль, было крыкліва абвешчана злучэньне беларускае і украінскае Царквы з нязьеднанаю расейскаю Царквою.

Хто зможа выказаць, Дастойныя Браты, цярпеньні, страты, гнобленьні, якіх тады зазналі вельмі шляхотныя беларускі і украінскі народы, ганьбаваныя і абвінавачваныя толькі дзеля таго, што сіламоц і падступна пханыя да схізмы, пратэставалі супроць крыўды і стараліся паводля магчымасьцяў захаваць сваю веру?

Дзелятаго зусім справядліва Наш Папярэднік с. п. Грыгоры XУII у прамове дня 12 лістапада 1839г. з жалем і сьлязамі перад усім сьветам агаласіў нягоднасьць гэтага ўчынку, але яго дамаганьне і жальба так і асталіся нявыслуханымі. І так каталіцкай Царкве давялося аплакваць тых сваіх сыноў, выдзертых нахабным гвалтам з яе мацярынскага ўлоньня.

Да таго па нямногіх гадох холмская епархія, якая належала да польскага каралеўства, злучанага з расейскаю імпэрыяю, дазнала тае самае няшчаснае долі. Вернікаў, якія не хацелі адступіць ад праўдзівае веры, ды з пачуцьця абавязку непахісна стаялі супроць злучэньня з нязьеднанаю Царквою, подла пакарана: каго бізунамі, каго пабоямі, а каго выгнаньнем.

І наадварот у тым самым часе, у Львоўскай і Пярэмыскай епархіях, што пасьля разбораў Польшчы былі далучаны да Аўстрыйскае імпэрыі, украінскае жыцьцё йшло ціха і спакойна. У 1807г. адноўлена Галіцкую мітраполію і злучана назаўсёды з Львоўскаю архіепархіяю. У гэтай правінцыі пайшло такое разьвіцьцё, што з часам два мітрапаліты, Міхайла Лявіцкій (1816–1858) і Сыльвэстар Сэмбратовыч (1882–1898), абодва з вялікаю разважнасьцю і з шчырым стараньнем узначальвалі сваю вобласьць, за свае вялікія духовыя прыметы і асаблівейжыя заслугі, былі ўшанаваныя рымскаю пурпураю і залічаны ў найвышэйшую

Раду Царквы. Калі-ж лік каталікоў усё павялічваўся, Наш Папярэднік с. п. Леў XIII у 1885г. правамоцна аснаваў новую Станіславаўскую епархію. Шэсьць гадоў пасьтя гэты шчасьлівы стан Галіцкае Царквы зацьвер́джаны асаблівым спосабам, праз тое, што усе біскупы сумесна з дэлегатам Рымскага Архірэя і шматлікім духавенствам сабраліся ў Львове, каб адбыць агульна-правінцыянальны сабор і выдаць адпаведныя літургічныя і царкоўна-дысцыплінарныя нормы.

Калі-ж у канцы 19-га і на пачатку 20-га стагодзьдзя шмат украінцаў, дзякуючы эканамічнаму крызысу перасялілася з Галіцыі ў Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Дзяржавы, у Канаду і ў краі Паўдзённай Амэрыкі, Наш Папярэднік с. п. Пій X у руплівай баязьні, каб тыя яго любыя дзеці із няведы мяйсцовае мовы і лацінскага абраду, не паддаліся мане схізматыкаў ці гэрэтыкаў, або заблытаныя сумнівамі і памылкамі, наагул няшчасна не пакінулі рэлігіі, у 1907 г. устанавіў ім біскупа з адпаведнымі паўнамоцтвамі. А пасьля, калі лік каталікоў і іх патрэбы павялічваліся, назначыў асобнага біскупа ардынарыя для украінцаў родам з Галіцыі ў Злучаных Дзяржавах, а другога ў Канадзе, акрамя гэтага яшче асобнага біскупа ардынарыя для вернікаў таго-ж абраду, якія перабраліся з Закарпацьця, Мадзяршчыны і Югаславіі. Наступна сьвяцейшая Кангрэгацыя для Пашырэньня Веры, а так-жа Кангрэгацыя для Усходняе Царквы, унармавалі царкоўныя справы украінцаў у вышменаваных абшарах адпаведнымі дэкрэтамі.

Дык нічога дзіўнага, Дастойныя Браты, што за такія вялікія дабрадзействы агул украінцаў каталікоў неаднойчы пры адпаведных нагодах выяўляў сваю ўдзячнасьць і поўную адданасьць Рымскім Архірэям. Асаблівым спосабам гэта было ў 1895г. падчас трохсотлетніх угодкаў шчасьліва заключанага зьяднаньня іх продкаў з Апостальскім Пасадам і замацаваньня яго ў Берасьці. Бо акрамя таго, што ў паасобных галіцкіх епархіях сьвяткавалі гэтую радасную памятку адпаведнымі ўрачыстасьцямі, так-жа было выслана ў Рымаграмаднае прадстаўніцтва: Мітрапаліта і біскупаў, якія Найвышэйшаму Архірэю і Намесьніку сьв. Пятра заявілі ад грэка-каталіцкае Царквы любоў, паважаньне пашану і паслухмянасьць. Гэтае грамаднае прадстаўніцтва Наш Папярэднік с. п. Леў XIII дапусьціў да сябе з належнаю чэсьцю і прамовіў да іх з радасьцю і бацькаўскай прыхільнасьцю ды з

найбольшымі пахваламі для зьеднаньня украінцаў з Апостальскім Пасадам, бо тым усім, якія яго захоўваюць шчырым сэрцам, яно збаўленная крыніца праўдзівага сьвятла, непарушнае згоды і нябесных пладоў.

У сучасны мамэнт Рымскі Архірэй дарыць гэтаму найдаражэйшашу народу ня меншыя дабрадзействы. Асабліва падчас першае сусьветнае вайны ў Эўропе і амаль у цэлым сьвеце, што так апустошыла гэтыя краі, а так-жа і ў наступных гадох, яны нічога не занядбалі, што магло-б украінскаму народу прынясьці якуюсьці помач і пацеху. І так з Божаю помаччу, перамогшы вялікія цяжкасьці, якія прыгняталі гэтую каталіцкую грамадзкасьць, яна адказвала станоўка і ахвотна на нязморaную працу сваіх біскупаў на супрацоўніцтва іншага духавенства, як гэта можна было бачыць. Але нажаль прыйшла другая вайна, шмат цяжэйшая і больш зьнішчальная для украінскае герархіі і яе вернага стада. Але пакуль станем, дастойныя Браты, коратка пісаць аб цяперашнім горы і нядолі, што іх перажывае гэтая Царква з найбольшаю небясьпекаю самага існаваньня, сьлед дадаць сёе-тое, каб лепш і ясьней паказаць, якія вялікія і велічныя дабрадзействы прынясло украінцам і беларусам ды іх Царкве тое зьяднаньне шчасьліва запачаткаванага 350г. таму.

## II

Пасьля таго як мы агульна і ў галоўных рысах пераглянулі гісторыю гэтага шчаснага зьяднаньня, і як убачылі часам радасныя часам сумныя перажываньні, дык самахоць напрошваецца Нам пытаньне: Навошта прыдалося гэтае зьяднаньне беларускаму і украінскаму народам і іх Царкве? Якія зыскі і карысьці даў ім Апостальскі Пасад і Рымскія Архірэі? Адказваючы належна на гэтае пытаньне, адначасна выконваем найбольш адпаведную і найкарысьнейшую рэч перадусім таму, што Берасьцейская вунія мае ня мала заўзятых праціўнікаў і ворагаў.

Належыць зазначыць на пачатку, што Нашыя Папярэднікі, паводле магчымасьці, паўсякчасна імкнуліся сьцерагчы і затрымаць законныя абрады беларусаў і украінцаў. Бо калі іх уладыкі вуснамі высланых у Рым біскупаў валадзімерскага і луцкага прасілі Рымскага Архірэя, „каб Яго Сьвятасьць дазволіў упоўні

і непарушна захаваць і пацьвярдзіць спосаб выконваньня сьв. Тайнаў ды абрады і цэрэмоніі Усходняе Царквы, так, як іх выконвалі ў часе зьяднаньня, і каб ні Ён ні Яго Наступнікі нічога ніколі ў гэтай справе ня ўводзілі новага“.[7] Дык Клімэнт VIII ласкава прыняў да ведама гэтую просьбу і выдаў прыпіс, каб наагул у гэтай справе нічога не зьмяняць. Нават новага грэгарыянскага календара не наложана ім, хоць самым беларусам і украінцам зразу здавалася, што затрымаўшы літургічнае усходняе рахаваньне, усё-ж трэба будзе яго завесьці. І так у іх можа захоўвацца юліянскі календар да нашых часоў.

Акрамя таго, той самы Наш Папярэднік лістом з 23 лютага 1596г. згодна із спачатнымі прыпісамі Усходняе Царквы і адпаведна да таго, як было заяўлена ў заключальным зьяднаньні, дазволіў, што біскупаў-памочнікаў, праўна назначаных, зацьвярджае мітрапаліт. Іншыя-ж Нашы Папярэднікі дазволілі, што Мітрапаліт на ўсім абшары Русі можа закладаць пачаткавыя і вышэйшыя школы і свабодна з уласнае волі назначаць у іх загадчыкаў і настаўнікаў. Яны так-жа пастанавілі, каб пры разьдзельваньні духовых ласкаў беларусы і украінцы не стаялі ніжэй ад іншых каталікоў, і нараўне з іншымі вернікамі былі удзельнікамі адпустаў і прошчаў (індульгенцый), калі толькі выканаюць усе абавязкова прыпісаныя умовы. А Павал V дазволіў, каб тыя, якія ходзяць у навучальныя школныя установы, заложаныя Мітрапалітамі, ад тады і назаўсёды, мелі ўдзел ува ўсіх тых ласках, што іх надалі Рымскія Архірэі Марыйскім арганізацыям у духоўных установах айцоў Езуітаў. А тым, што робяць духоўныя ўправы ў манахаў чына сьв. Базыля, Урбан VIII надаў такія самыя адпусты, якія атрымалі законнікі сьвятары Ісусавага Таварыства.

З гэтага ясна відаць, што Нашы Папярэднікі абдаралі грэка-католікаў тою самаю бацькаўскаю любоўю, што й іншых каталікоў лацінскага абраду. А так-жа ад самага пачатку Яны баранілі правоў і прывілеяў іх герархіі. Бо было ня мала такіх лаціньнікаў, якія цьвярдзілі, што грэка-каталіцкі абрад і ніжэйшы і менш годны; а нават некаторыя лацінскія біскупы паўтаралі, што грэка-каталіцкія біскупы ня маюць поўных біскупскіх правоў, але падлягаюць ім. Адкідаючы гэтыя несправядлівыя думкі і

[7] Пар. А. Тайнэр усп. мейс. стр. 237.

пагляды, Апостальскі Пасад выдаў дня 28. верасьня 1643 г. дэкрэт, у якім даслоўна гаворыцца: „пры справаздачы Яго Эмінэнцыі кардынала Памфілія з розных пастановаў асаблівае нарады для зьяднаных беларусаў і украінцаў, Яго Сьвятасьць зацьвердзіў дэкрэт тае-ж асаблівае нарады з дня 14-га нядаўна мінулата жніўня, якім пастаноўлена, што зьяднаныя біскупы — сапраўдныя біскупы і такімі належыць іх прызнаваць і называць. Так-жа зацьвярдзіў дэкрэт тае самае нарады, якім вырашаецца, што грэка-каталіцкія біскупы ў сваіх епархіях могуць закладаць гуманістычныя школы для моладзі і, што грэка каталіцкае духавенства, падобна як духавенства лацінскае Царквы карыстаецца прывілеямі: канону, суду, незачэпнасьці і свабоды“. [8]

Але найлепшым доказам таго, як няўтомна стараліся Рымскія Архірэі абараніць і захаваць грэка-каталіцкі абрад, зьяўляецца доўгагадовы ход справы зьмены абраду. І хаця дзеля асаблівых прычынаў, зусім незалежных ад іх волі, нельга было праз вельмі доўгі час налажыць сьвецкім людзям поўную забарону зьмены абраду, усё-ж паноўліваныя спробы выдаць такую забарону, як і заклікі зьверненыя да лацінскіх біскупаў і сьвятароў ясна сьведчаць, як вельмі гэтая справа ляжала на сэрцы Нашых Папярэднікаў. У самым дэкрэце шчасьліва заключанага зьяднаньня беларусаў і украінцаў з Апостальскім Пасдам 1596 г. ня было выразнае забароны пераходу з Усходняга абраду на лацінскі. Але якая ўжо тады была думка Апостальскага Пасаду выяўляецца з лісту Зьверхніка Ісусавага Таварыства высланага 1608-га г. да яго сяброў у Польшчы, у ім ён забараняе пасьля зьяднаньня прыймаць у лацінскі абрад такіх, якія перш ніколі ня былі таго абраду, „бо гэткі прыказ Царквы і да таго спэцыяльна пастаноўлена ў дэкрэце Уніі дакананае за Клімэнта VIII, каб кожны аставаўся ў абрадзе свае Царквы“. [9]

Калі аднак часьцей і часьцей сталі паўтарацца жальбы, што асабліва моладзь вышэйшых беларускіх і украінскіх кругоў прыймае лацінскі абрад, Сьв. Кангрэгацыя для Пашырэньня Веры дэкрэтам з дня 7-га лютага 1624 г. пастанавіла, што „на прышласьць зьяднаныя беларусы і украінцы так вернікі як і духавенства, так сьвецкае сьвятарства як і манахі, асабліва

[8] Акты і дэкрэты сьв. Сабораў. стр. 600. зац. 2.
[9] Усп. мейс. стр. 603.

базыльяне ня могуць з ніякае прычыны, хаця–б і найбольш наглячае, пераходзіць на лацінскі абрад без асобнага дазволу на гэта ад Апостальскага Пасаду“. [10]

Аднак гэтага дэкрэту нельга было ажыцьцявіць дзеля спраціву польскага караля Жыгімонта III, які жадаў, каб гэтую забарону абмежаваць толькі да духоўных. Наш Папярэднік с. п. Урбан VIII ня мог гэтага адмовіць таму вельмі магутнаму заступніку каталіцкае еднасьці. Дзеля таго тое, што нельга было дзеля асаблівых прычынаў уняць законам, Апостальскі Пасад стараўся правясьці загадамі і напамінаньнямі: на гэта ёсьць не адзін довад.

Так вось ужо ўва ўступе да дэкрэту з дня 7 ліпеня 1624 г. якім толькі духавенству забараняецца пераход на лацінскі абрад, пастаноўлена прыпомніць сьвятаром лацінскае Царквы, каб у сьв. споведзі не намаўлялі вернікаў пераходзіць на ўспомнены абрад. Такога роду напамінаньні паўтараліся ня раз, а Апостальскія Нунцыі ў Польшчы паводля даручэньня Сусьветных Архірэяў усімі сіламі стараліся, каб яны мелі задуманы вынік. А тое, што і ў далейшым думка і пагляд Апостальскага Пасаду не зьмяніліся, ясна відаць з лісту Нашага Папярэдніка Бэнэдыкта XIV да львоўскага і пярэмыскага біскупаў з 1751 г. дзе між іншым чытаем: „Нам даручана Вашы лісты з 17 ліпеня, у якіх слушна жаліцеся на пераход украінцаў з грэцкага абраду на лацінскі. Як добра ведаеце, Дастойныя Браты, што Нашыя Папярэднікі абураліся на такія пераходы, і Мы абураемся, бо ўсімі сіламі жадаем ня зьнішчыць але захаваць грэцкі абрад“ [11]. Акрамя таго той самы Папа абяцаў адхіліць усякія перашкоды ў гэтай справе, і ўканцы ўрачыста забараніў такога роду пераходы. Аднак цяжкасьці і нявыгоды таго часу не дазволілі, каб ужо тады маглі споўніцца тыя жаданьні і абяцанкі.

А ўканцы пасьля таго, як Рымскія Архірэі Клімэнт XIV і Пій VII пастанавілі, што беларусам і украінцам грэка–каталіком пад расейскім панаваньнем ня можна пераходзіць на лацінскі абрад, а ў умове з 1863 г. заключанай пад кіраўніцтвам Сьв. Кангрэгацыі для Пашырэньня Веры між лацінскімі і грэка–каталіцкімі біскупамі названае „Канкордыя“ вырашана, што гэтая забарона адносіцца да ўсіх грэка–каталікоў.

[10] Усп. мейс. стр. 603.
[11] Усп. мейс. стр. 606.

Ужо з гэтага, Дастойныя Браты, што дагэтыль у галоўных рысах і коратка ўспомнена з гісторыі, ня цяжка выказаць, як вельмі Апостальскі Пасад рупіўся захаваць цэласьць грэка-каталіцкага абраду так што да агулу, як і да паадзінокіх асоб. Аднак нікому ня дзіўна, што Ён астаўляючы непарушнымі галоўныя істотныя абрады, уважаючы на асаблівыя абставіны часу, дазволіў на некаторыя меншыя зьмены, або іх часткова адобрыў. Так напрыклад: Ён не дазволіў на ніякія зьмены ў літургічных абрадах, нават на такія, што з часам былі ўведзены, за выняткам некалькіх тых, што пастанавілі іх увясьці самыя беларускія і украінскія ўладыкі на Замойскім сынодзе.

Аднак здаралася так, што некаторыя вельмі хітрыя прыхільнікі схізмы на ўласную руку стараліся нанава ўводзіць старыя, часта забытыя ўжо звычаі, быццам дзеля захаваньня чысьціні спачатнага свайго абраду, а ў сапраўднасьці на тое, каб неасьвядомлены народ адхіліць ад каталіцкае веры, тады Рымскія Архірэі, сьведамыя свайго абавязку, супраціўляліся такім падступным захадам, выкрывалі іх яўна хітрыя намеры, і вырашылі, што „не параіўшыся з Апостальскім Пасадам, ня можна ўводзіць нічога новага ў сьвята-літургічных абрадах, нават у імя аднаўленьня абрадаў, зацьвярджаных тым-жа самым Пасадам, і хоць-бы здавалася, больш адпаведных для багаслужэньня, хіба толькі з вельмі важньх прычынаў і з павагаю Апостальскага Пасаду“ [12]

Зрэштаю Апостальскі Пасад такі далёкі ад усякіх намераў стацца чымколечы на перашкодзе для непарушнасьці і захаваньня таго абраду, што хутчэй для грэка-каталіцкае Царквы стаўся дзейнікам захаваньня з найбольшаю пашанаю даўнейшых літургічных традыцыяў. Найпрыгажэйшым довадам гэтае спагаднасьці да грэка-каталіцкага абраду зьяўляецца новае рымскае выданьне літургічных кнігаў, запачаткаванае за Нашага Пантыфікату і часткова ўжо шчасьліва выкананае. У ім Апостальскі Пасад, ідучы ахвотна на сустрач жаданьню грэка-каталіцкіх уладыкаў, пастараўся ўстанавіць іх літургічныя абрады паводля іхных даўных багаслоўскіх традыцыяў.

[12] Гл. Пій IX Пасланьне: „Усю дбайлівасьць“, з дня 13 траўня 1874 г. паклікаючыся на Грыгора XVI, „Паміж найцяжэйшымі“, Акты Пія IX, т. VI. 317.

Ды вось яшчэ прыходзіць Нам на думку, Дастойныя Браты, іншае дабрадзейства, якое прынясло беларусам і украінцам зьяднаньне з Апостальскім Пасадам. Праз гэтае зьяднаньне тыя крывічэсныя народы, ушчэпленыя ў Каталіцкую Царкву, пачалі жыць яе жыцьцём, прасьвечвацца яе праўдаю, удзельнічаць у яе ласках. З яе струмяць раўчукі з нябеснае крыніцы, якія так усё насочваюць і пранікаюць, што могуць узрасьціць прыгожыя кветкі усіх цнотаў і зарадзіць багатыя ды здаровыя плады.

Бо калі перад дакананым паваротам да еднасьці самыя незьядналыя браты жалаваліся на адступства ад сьв. веры ў тых краінах, на распаўсюджаную загану сымоніі ў выбары біскупаў і іншых сьвятарскіх чыноў, на растрату царкоўных маемасьцяў, на сапсуцьцё манашага жыцьця, на заняпад манастырскае дысцыпліны і на тое, што вязі паслухмянасьці вернікаў сваім уладыкам штодня больш аслабляліся і рваліся, дык наадварот пасьля заключэньня зьяднаньня за натхненьнем і помаччу Божаю палажэньне ўсё штораз паляпшалася. Але колькі моцы духа і трыўкасьці мусілі мець біскупы, перадусім на першых пачатках, каб узнавіць царкоўны лад праз усякага роду замяшаньні і растраўленыя напады! Колькі мурашкавае старанлівасьці і вытрывалае працы мусілі яны прылажыць, каб разбудзіць у клеры любоў да найлепшых цнотаў, каб суцешыць прыгнобленых горам у давераным сабе стадзе, каб уканцы тых, што хісталіся ў веры падняць і ўсемагчыма ўмацаваць! Аднак супроць усякага людзкога спадзяваньня ёсць той радасны вынік, што тое так жаданае зьяднаньне ня толькі вышла пераможна з усіх навальніцаў, але яшчэ жывей і мацней выявілася ў пераможным змаганьні. Ды ні мячом, ні пабоямі, ні прыманьваньнем ці пагрозамі, але выдатнымі прыкладамі рэлігійнага жыцьця і быццам, якімсьці цудоўным праявам Божае ласкі каталікі украінцы прывялі ўканцы да аднаго стада незьядналыя Львоўскую і Пярэмыскую епархіі.

Калі ўрэшце настаў супакой і мір дык квітнеючы стан украінскае і беларускае Царквы асабліва ў XVIII стагодзьдзі зазьзяў так-жа і навонках. Сьведкамі гэтага ёсць галоўная царква места Львова, прысьвячаная сьв. Юраму, як такжа цэркві і манастыры ў Пачаеве, Тараканях, Журовічах ды ў іншых мяйсцох як выдатныя памяткі таго часу.

Тут–жа выпадае сказаць некалькі слоў пра манахаў базыльянаў, якія сваею вялічэзнаю і рупнаю працаю так славута і найлепш прыслужыліся для ўсяе гэтае справы. Пасьля таго, як Вэлямін Руцкі завёў у іх манастырох дасканалейшы і сьвяцейшы від жыцьця спалучаючы іх у адну кангрэгацыю, шмат манахаў так прыкладна зазьзялі пабожнасьцю, вучонасьцю і апостальскім стараньнем, што сталіся праваднікамі рэлігійнага жыцьця і настаўнікамі хрысьціянскага народу. У сваіх школах юнаком, вельмі часта вызначных талентаў, яны падавалі ня толькі высокую асьвету ў гуманістычных і багаслоўскіх навуках, але так–жа адначасна з тым перадавалі ім сваю салідную цноту, так што яны зусім ня ўступалі ўзгадаванцам лацінскіх установаў. Ведалі добра гэта і незьядналыя браты, таму ня мала з іх, пакінуўшы дом і бацькаўшчыну, ахвотна завітвалі да гэтых навуковых прыстанішчаў, каб самым стацца ўдзельнікамі тых прыемных овачаў.

Ня меншыя дабрадзейсвы атрымала ў навейшых часох украінская грамадзкасьць із свае злукі з Апостальскім Пасадам. Аб чым лёгка можна пераканацца, калі зьвярнуць увгу на стан Царквы ў Галіцыі перад гэтаю жахліваю вайною руйнацыі і спусташэньня. У гэтай вось правінцыі налічвалася амаль 3.600.000 вернікаў, 2.275 сьвятароў і 2.226 прыходаў або парохіяў. Акрамя таго ня мала было выхадцаў грэка–каталікоў з гэтае галіцкае правінцыі ў розныя часьці сьвету, перадусім у Амэрыку; іх трэба лічыць на 400 да 500 тысяч. Гэтаму значнаму ліку вернікаў, які дагэтуль можа ніколі ня быў большы, у паасобных епархіях адказвае адпаведна ня меншы ўзровень чэснага, пабожнага хрысьціянскага жыцьця. У епархіяльных сэмінарыях з належным старанным узгадаваньнем рыхтаваліся кандыдаты да сьвятарства; у сваю чаргу вернікі, удзельнічаючы з найбольшай любоўю і пашанаю ў багаслужэньні, выдавалі радасныя і багатыя плады рэлігійнага жыцьця.

Успамінаючы толькі коратка той шчасьлівы стан грэка–каталіцкае Царквы, ня можам абмінуць маўчаньнем выдатнага Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, які амаль 45 гадоў няўтомнаю і рупнаю црацаю заслужыўся для даверанага сабе стада не ў адной справе і не ў самой толькі духоўнай дзялянцы. За час яго архіпастырскае ўправы было аснавана Багаслоўскае Таварыства, якога мэтаю было разбудзіць у клеры любоў да шырэйшых

студыяў і разьвіцьця духоўных навук. У Львове аснована Багаслоўскую Акадэмію, дзе здольная моладзь магла выгадна займацца філязафічнымі і багаслоўскімі студыямі і іншымі вышэйшымі навукамі зусім на унівэрсытэцкі лад. Так-жа ўсякага роду выдавецкая дзейнасьць мела вялікі рост; выходзілі кнігі, газэты, якія мелі вялікае прызнаньне і ў чужых. Акрамя таго разьвілося царкоўнае мастацтва паводля прадзедаўскіх традыцыяў і з сваеасаблівасьцямі гэтага народу; аснована музэй і іншыя ўстановы прыгожага мастацтва з выдатнымі стараветнымі памяткамі. Уканцы заложана і разьвіта ня мала ўстановаў, якіх мэтаю было ўспамагаць ніжэйшыя кругі грамадзкасьці ў іх патрэбах і ўбогіх у іх нястачах.

Ня можам так-жа прамаўчаць і тыя надзвычайныя заслугі, якія асягнулі ў гэтай справе з неабыякім збаўчым вынікам адданыя Богу мужчынскія і жаночыя Чыны. І ў першую чаргу выпадае ўспомніць манастыры базыльянскіх манахаў і манашак, якія хаця за часоў аўстрыйскага імпэратара Язэпа II не бяз крыўды і шкоды цярпелі ўмяшаньне сьвецкае ўлады ў свае справы, аднак пасьля ў 1882 г. і ў наступных гадох праз так званую Дабрамільскую рэформу былі ўстаноўленыя ў калішняй сваёй славе, і з любасьцю да ўкрытага жыцьця ды высокаю духовасьцю, якую чэрпаюць з правілаў і прыкладу сьв. Асноўніка, лучаць шчырую рупнасьць апостальства. Да гэтых даўных паселішчаў манашага жыцьця далучыліся аднакава слаўныя новыя законныя Згуртаваньні мужчынскія і жаночыя: як чын Студытаў, манахі якога аддаюцца перадусім кантэмпляцыі нябесных рэчаў і ўчынкам сьв. пакуты; законнае Згуртаваньне Прэсьв. Спаса ў грэк-кат. абрадзе, якога сябры з вельмі спасенным вынікам працуюць так у Галіцыі, як і ў Канадзе, нарэшце шмат жаночых Згуртаваньняў, якія маюць на мэце ўзгадаваньне дзяўчат і дагляд хворых, як Служэбніцы Непарочнага Зач. Прач. Дзевы Марыі, ці Міраносіцы, Язэфіткі, Ёзафаткі, Сёстры Найсьв. Сям'і і сьв. Вінцэнта Паўлійскага.

Добра так-жа ўспомніць тут Папскую Калегію ім. Ёзафата, якую аснаваў на Джэньнікулі і шчодра асанньціў Наш Папярэднік с. п. Пій XI. На працягу стагодзьдзяў маглі некаторыя маладыя выбранцы рыхтавацца да прыняцьця сьвятарскага стану ў Папскай Грэцкай Калегіі, а асобную Калегію ў Рыме для тых юнакоў, пакліканых Богам з украінскага народу аснаваў

іншы Нам Папярэднік незабытнае памяці Леў XIII. Але калі той будынак быў за малы для растучага ліку ўзгадаванцаў, найблі-жэйшы Наш Папярэднік у асаблівай сваей любові да украінскага народу выбудаваў, як Мы ўспомнілі новы большы будынак. У якім маюць шчасьліва ўзрастаць у пашане і любові да Намесьніка Ісуса Хрыста і ў надзеі грэка-катал. Царквы кандыдаты да сьвятарства, назначаныя і дабраныя да багаслоўскіх навукаў і практыкаў уласьцівых свайму абраду.

Іншае, Дестойныя Браты, ня меншага значэньня і аздобы прыдбала беларуская і украінская грамадзкасьць із свайго зьяднаньня з Апостальскім Пасадам, менавіта, яна стала годнаю цэлага раду слаўных вызнаўцаў і мучанікаў. Каб захаваць непарушнасьць каталіцкае веры і шчырую вернасьць Рымскім Архірэям, яны не шкадавалі ніякіх трудоў ні турботаў, а нават ахвотна йшлі на сьмерць згодна з навукаю Божага Спаса: „Шчасьлівыя будзеце, калі зьненавідзяць вас людзі, і калі прагоняць вас, і будуць зьневажаць і разьнясуць імя вашае, як зло за Сына чалавечага. Радуйцеся ў той дзень і весялецяся, бо вялікая нагарода вам на небе“. [13]

Першы з-паміж іх ліку прыходзіць Нам на думку вельмі сьвяты Сьвяціцель Ёзафат Кунцэвіч, якога слаўную непахісную моц Мы ўжо ўспомнілі перш. Калі найбольш злачынныя ненавісьнікі каталіцкае веры зрабілі на яго сьмяротны напад, ён дабравольна аддаўся катам і так даў сябе ў ахвяру, каб чымхутчэй вымаліць цярпеньнем навярненьне незьяднаных братоў. У той час ён быў галоўны, але не адзіны мучанік за каталіцкую веру і еднасьць, бо да яго пераможнага вянка прылучылася ня мала духоўных і сьвецкіх, якія ці то загінулі ад мяча ці скатаваныя жорстка на сьмерць бізунамі, або ўкіненыя ў дняпровыя воды, слаўна адышлі ў нябесныя вышыні.

Калі па нямногіх гадох, у палавіне XVII стаг. казакі ўхапіліся за зброю супроць Рэчыпаспалітае Польскае, ненавісьць супроць царкоўнае еднасьці ўзрастала ўсё больш, і больш і ставалася больш лютаю. Бо яны былі перакананыя быццам заведзенае тады зьяднаньне сталася галоўным жаралом з якога выплывалі тагачасныя няшчасьці і злыбяды. Дзеля таго так моцна пастанавілі сабе, усякімі сродкамі і ўсякімі способамі яго паваліць і зьнішчыць.

[13] Лук. 6, 22-23.

Адгэтуль паўсталі, амаль нязьлічаныя няшчасьці для беларускае і украінскае каталіцкае Царквы: шмат сьвятыняў было абясчэшчэна, аграблена, зруйнавана, а іх уладжаньне і скарбы зьнішчана; шматлікіх сьвятароў і вялікі лік вернікаў замардавана жудаснымі бізунамі, замучана цяжкім катаваньнем і жахліва памардована. Нават у самых уладыкаў зрабавалі іх маемасьць, папраганялі іх з іх пасадаў і яны змушаныя былі ўцякаць. Але нават у часе гэтае расшалелае буры яны ня падалі духам і ў меру магчымасьці не астаўлялі даверанае сабе стада без апекі і абароны. Больш таго, нават будучы ў найбольшым уціску стараліся сваімі просьбамі прывесьці да аднае аўчарні, заклікамі, дбайлівасьцю ўсю расейскую Царкву, разам з царом Аляксеям.

Некалькі гадоў да разбору Польшчы прыйшла новая, ня менш балючая нагонка на каталікоў. У тым часе войскі расейскае царыцы былі ўвайшлі ў межы Польшчы, сіламоц аружжам было забрана шмат беларускіх і украінскіх каталіцкіх царкоў, а сьвятароў, якія не хацелі адрачыся свае веры вязьнілі, катавалі, секлі бізунамі, укідалі ў вастрогі, жорстка мучылі голадам, смагаю, холадам.

Ня з меншаю вытрываласьцю і сілаю духа былі тыя сьвятары, якія каля 1839 г. лепш выбралі ўтрату сваіх маемасьцяў і свабоды чым адрачэньне ад свайго рэлігійнага абавязку. Спаміж іх ліку заслугоўвае на асаблівы ўспамін сьвятар Язэп Анчэўскі, які пратрыманы 32 гады ў суздальскім манастыры пад срогім надзорам, адыйшоў па нагароду за сваю высокую цноту пабожнаю сьмерцю 1877 г. Так сама 160 сьвятароў за тое што вызнавалі каталіцкую веру, былі разлучаны ад сваіх сем'яў, астаўленых у бядзе, самі вывезены ў глыб Расеі і пазамыканы ў манастырох, але не даліся ні голадам ні зьдзекам адвесьціся ад свае сьвятое пастановы.

А так-жа ня мала духоўных і вернікаў Холмскае епархіі зазьзялі ня меншаю адвагаю духа супраціўляючыся непахісна прасьледавацялям каталіцкае веры. Так напр. жыхары вёскі Пратуліна не адказвалі сілаю на насільства, калі жаўнеры напалі на царкву, каб яе заняць ды аддаць схізматыкам, але безбаронныя, зьбіўшыся ў кучу, стварылі з сябе быццам жывы мур супроць напасьнікаў. Дзеля гэтага адных з іх паранілі і скатавалі, другіх на доўгія гады вывезьлі ў сьцюдзённую Сібір, а іншыя пад кулямі пралілі сваю кроў за Хрыста. Што да тых, якія

сьмерцю зазначылі каталіцкую веру, дык справа вынясеньня іх на аўтар ужо распачата ў іх епархіі і ёсьць надзея, што калісь іх можна будзе залічыць у рады сьвятых. На жаль гэтыя нягодныя злочыны дзеяліся не ў адным мейсцы, але здараліся ў шматлікіх местах местачках і вёсках. І калі ўжо ўсе каталіцкія цэркві былі адданы схізматыкам і ўсе сьвяшчэннаслужыцелі выгнаны з сваіх мейсц, былі прымушаныя пакінуць без апекі даверанае сабе стада, тады вернікаў зусім ня пытаючыся пра іх жаданьне, упісана да незьяднанае Царквы. Адкак яны дарма што пазбаўленыя сваіх пастыраў, рэлігійных службаў і дапамогаў, усё-ж заўзята стараліся захаваць сваю веру. Калі-ж пазьней некаторыя з а.а. Ісусоўцаў у пярэбраньні і не бяз вялікае небясьпекі жыцьця тайком адведвалі іх, каб апавяшчаць ім волю Божую, падтрымаць і пацешыць, яны прыймалі іх з найбольшаю радасьцю і пашанаю.

Калі-ж у 1905 г. абвешчана сякую такую свабоду веры, дык можна было ўбачыць у тых беларускіх і украінскіх акругах чудовую радасную зьяву: упрост нязьлічоная колькасьць каталікоў стала выходзіць із сваіх сховішчаў на яў, а ня маючы сьвятароў свайго ўсходняга абраду сплочанымі гурмамі, з крыжамі на перадзе ды сьвятымі іконамі сьвяточнымі працэсіямі з песьнямі падзякі Богу, ішла ў лацінскія касьцёлы, куды перш забаронена было ім заходзіць пад вельмі цяжкімі карамі. І там яны малілі праўных парахіяльных сьвятароў, каб адчынілі ім дзьверы, прынялі іх і іхняе вызнаньне веры, ды запісалі ў лік каталікоў. Такім чынам у кароткім часе да 200.000 Хрыстовых вернікаў праўна прынята ў Царкву.

Але і ў навейшых часох не бракавала нагоды, каб біскупы, сьвятары і іх стада маглі паказаць сваю сілу духа і вытрываласьць у захаваньні каталіцкае веры, у абароне Царквы і яе свабоды. З-памі-ж іх міла нам тут успомніць, для асаблівага яго праслаўленьня Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага. Калі разгулялася першая эўрапэйская вайна і Галіцыю занялі расейскія войскі, яго прагналі з пасаду і выслалі ў манастыр. Там і прабыў ён якісьці час пад вартаю і нічога не жадаў, як засьведчыць найглыбейшую сваю пашану да Апостальскага Пасаду, і з ўсёю гатоўнасьцю, калі-б гэтага была патрэба, перацярпець з Божаю помаччу нават мучаніцтва за свае стада, для спасеньня якога ўжо доўга прысьвячаў свае сілы і стараньні.

## III

Мы ўжо бачылі, Дастойныя Браты, з гістарычных фактаў, коратка прадстаўленых у гэтай энцыкліцы, колькі вялікае карысьці і дабра атрымалі беларускі і украінскі народы із іхняга злучэньня з Каталіцкаю Царквою. І ня дзівота: бо калі ў Хрысьце „рачыла жыць усякая поўня“ [14] дык зразумела ня можа карыстацца гэтаю поўняю той, хто адлучаны ад Царквы, „якая ёсьць Яго целам“ [15], таму што паводля слоў Нашага Папярэдніка с. п. Пэлягія II: „хто колечы ня быў-бы ў міры і лучнасьці з Царквою, ня зможа мець Бога па сваім боку“ [16]. І мы бачылі, што гэтыя любыя народы мусілі перанесьці багата цяжкасьцяў, бяды і прасьледаваньня, каб бараніць паводля змогі каталцкую еднасьць, і аднак Бог у сваім провідзе ня раз ім вяртаў мір і шчасьліва вызваляў.

Ды вось цяпер бачымо з найбольшаю трывогаю ў душы, што наступае новая і вельмі грозная навальніца супраць гэтае Царквы. Весткі, якія да Нас дайходзяць, хоць і вельмі скупыя, аднак выстарчаючыя, каб збольшыць нашы турботы і напоўніць трывогаю. Якраз дзень угодкаў, у які 350 гадоў таму злучылася із сваім найвышэйшым Пастырам і Намесьнікам Блажэннага Пятра: і якраз гэты дзень стаўся Нам „днём трывогі і сьціску, днём гора і бяды, днём цьмы і беспрасьвету, днём тумаеоў і навальніц“ [17].

Бо з вялікім сумам Мы даведаліся, што на абшары нядаўна прылучаным да Расеі, найдаражэйшыя нашы браты і сыны украінскага народу церпяць цяжкі прасьлед дзеля свае вернасьці Апостальскаму Пасаду; і не бракуе такіх, што ўсімі спосабамі стараюцца адарваць іх ад супольнае Царквы Маці і прывясьці супроць іх волі і найсьвяцейшага перакананьня да злучэньння з незьядыненымі. І так духавенства грэка-каталіцкага абраду, як даносяць, у лісьце зьверненым да дзяржаўнае ўлады, жалуецца, што іх Царква ў Заходняй Украіне, як яна сёньня называецца,

[14] Кал. I, 19.
[15] Эф. I, 23.
[16] Ліст да біск. Істрыі – Акты Сус. Сабораў IУ, II, 107.
[17] Прам. I, 15.

апынулася ў вельмі цяжкіх абставінах, таму што ўсе біскупы і шмат іхных сьвятароў увязьнены і адначасна забаронена каму колечы прыймаць управу грэка-кат. Царквы.

Добра знаемо, Дастойныя Браты, што гэтыя цяжкасьці і прыкрасьці апраўдваюцца, для замыльваньня вачэй, палітычнымі прычынамі. Аднак гэткі спосаб дзеяньня ня ёсьць новы, ані ўжыты сёньня першы раз; бо многа разоў на працягу стагодзьдзяў ворагі Царквы заўзята і падступна абвінавачвалі каталікоў, быццам яны нешта дзейнічалі супроць дзяржавы, таму, што ня мелі адвагі яўна прызнаць, што яны варожа настроены супроць рэлігіі і яе яўна руйнаваць; такім самым чынам, як калісьці жыды абвінавачвалі самога Боскага Спаса перад Рымскім Намесьнікам кажучы: „Мы знайшлі, што гэты бунтуе нам народ і забараняе плаціць падатак кесару“[18]. Але самая справа і вынікі яе лёгка даводзяць і выясьняюць, якая была і ёсьць прычына гэтых прасьледаваньняў. Бо хто-ж ня знае, што патрыярх Аляксей, нядаўна выбраны незьядыненымі біскупамі Расеі, у пасланьні зьверненым да грэка-кат. Царквы, — якое ня мала прычынілася да запачаткаваньня гэткага прасьледаваньня, — яўна захвальваў і намаўляў да адступства ад каталіцкае Царквы?

А гэты ўціск тым больш нас раніць, Дастойныя Браты, што амаль усе народы сьвету на ўрачыстых зборах сваіх высланьнікаў, яшчэ тады, як лютавала вялічэзная вайна, заявілі між іншага, што ніколі ня мае быць распачата прасьледаваньне рэлігіі. І гэта ў Нас зрадзіла надзею, што каталіцкай Царкве ўсюды будзе даны мір і належная свабода, тым больш, што яна сама паўсякчасна навучала і вучыць, што заўсёды трэба ў сумленьні слухацца законна ўстаноўленае дзяржаўнае ўлады, якая загадвае ў плошчы і межах свае ўлады. На жаль аднак выпадкі, якія Мы закранулі у папярэдніх радкох, так вельмі і так горка аслабілі і амаль што адабралі гэтую надзею і той Наш давер, у адносінах да украінскіх зямель.

Таму вось у гэтым вельмі цяжкім няшчасьці, калі людзкія сілы выдаюцца за слабыя, нічога больш не астаецца, Дастойныя Браты, як шчыра маліць найлітасьцівейшага Бога, каб „зрабіў ... суд патрабуючым і справядлівасьць убогім“[19] каб

[18] Лук. 23, 2.
[19] Пс. 139, 13.

Сам захацеў ласкава ўняць гэтую лютую навальніцу і палажыць ёй канец. А вас і даверанае вам стада яшчэ і яшчэ раз заахвочваем, каб разам з Намі шчырымі малітвамі і пакутнымі ўчынкамі вымольваць у Таго, што нябесным сьвятлом прасьвячае людзкі розум і нябесным сваім хаценьнем схіляе іх волю, каб зьлітаваўся над сваім народам і ня даў свайго спадку на ганьбу [20], і каб чым хутчэй грэка-катал. Царква вызвалілася ад гэтага згубнага палажэньня.

Але асаблівым спосабам у гэтых сумных і крытычных падзеях Мы бацькаўскім сэрцам зьвяртаемся да тых, што якраз гэтым так цяжка і жорстка прыгнечаныя. Да вас перш усяго, Дастойныя Браты, Біскупы украінскага народу, хоць вы самі маеце вялічэзнае цярпеньне, больш аднак прыбітыя і затрывожаныя доляю вашага стада, чым крыўдамі і злыбядамі што іх вам учынілі, паводле сдоў: „Добры пастыр аддае душу сваю за авец сваіх“ [21] І хоць сучаснае палажэньне няяснае, а прышласьць няпэўная і вельмі трывожная, усё-ж ня падайце духам, але „стаўшы відовішчам ... сьвету ангелам і людзям [22], старайцеся каб вашу цярплівасьць і цноту бралі як прыклад усе Хрыстовыя вернікі. Пераносячы мужна і вытрывала такога роду варожыя прасьледаваньні і палымнеючы Божаю любоўю да Царквы вы сталіся: „Хрыстовым пахам прыемным ... Богу у тых, што спасаюцца і ў тых, што гінуць“ [23]. І хаця таму, што вы ў аковах адлучаны ад вашых сыноў, ня маеце магчымасьці навучаць іх закону сьвятое веры, самы вашы аковы паўней і сьвятлей абвяшчаюць і навучаюць Хрыста. Так-жа да Вас зьвяртаемся па-бацькаўскі, любыя сыны, што значаныя сьвятарствам Хрыста, „які цярпеў за нас“ [24], вы павінны вярней ісьці за ім і перад іншымі прыймаць ды вытрымліваць супраціўны напад. Хаця вашае няшчасьце Нас так сільна прыгноблівае, аднак з іншага ўзгляду цешымся, што можам да шмат каго з вас азваццa славамі Боскага Спаса: „Ведаю ўчынкі твае і любоў і служэньне і цярплівасьць

[20] Прар. Іоіль 2, 17.
[21] Ів. 10, 11.
[22] І Кар. 4, 9.
[23] І Пятр. 2, 21.
[24] Пар. І Кар. 4, 1.

і ўчынкі твае, ды што апошніх больш чым першых“ [25]. Заахвочваем вас у гэтых сумных часох; трымайцеся далей моцна і непахісна ў вашай веры, і далей падтрымлівайце слабых і ўмацоўвайце тых, што хістаюцца. Напамінайце, пакольні гэта патрэбна, даручаных вам вернікаў, што ня можна ніяк, нават на зьне ці словам запярэчыць або пакінуць Хрыста і Яго Царкву, ды выяўляйце хітразлосныя махінацыі тых, што абяцаюць людзям зямныя выгады, большае шчасьце ў гэтым жыцьці, а губяць іхныя душы. Захоўвайцеся самі, „як слугі Божыя ў вялікай цярплівасьці, у прыкрасьцях, у горы, у бядзе, у прыгнобленьні,... у чыстасьці, у доўгацярплівасьці, у дабраце, у Духу Сьвятым, у някрывадушнай любві, у слове праўды, у сіле Божай, із зброяй справядлівасьці ў правай і левай руцэ“ [26].

Да вас уканцы прамаўляем усе вернікі грэка-кат. Царквы, спачуваючы бацькаўскім сэрцам з вашым цярпеньнем і злыбядамі. Добра ведаем, што вельмі моцныя подступы настаўлены для вашае веры. Ды здаецца трэба баяцца, што ў найбліжэйшых днёх магчыма прыйдзецца цярпець шмат болшыя крыўды тым, якія ня згодзяцца зрадзіць найсьвяцейшую справу веры. Таму ўжо цяпер найдаражэйшыя сыны, заахвочваем вас шчыра ў Госпадзе, каб вы ніколі не адракаліся вашае веры і вашае вернасьці для Маці Царквы, ды не даліся пералякацца ніякімі пагрозамі і ніякімі шкодамі, ані нават небясьпекаю выгнаньня і нават утратаю самага жыцьця. Бо як добра ведаеце, ідзе пра закопаны скарб на полі, што яго знайшоўшы чалавек „прытаіў і ў радасьці ідзе і прадае ўсё, што мае, і купляе гэнае поле“ [27]. І памятайце, што сказаў сам Боскі Спас у Евангельлі: „Хто любіць бацька ці маці больш за Мяне, ня варт Мяне. І хто любіць сына ці дачку больш за Мяне, ня варт Мяне, І хто не бярэ крыжа Майго, і ня йдзе за Мною, той ня варт Мяне. Хто знайшоў душу сваю, загубіў яе, а хто загубіў душу сваю дзеля Мяне, знайшоў яе“ [28]. Гэтаму Божаму выславу сьлед прыбавіць сказ апостала народаў: „Вернае слова: калі мы з Ім памерлі, дык з Ім і ажывём, калі мучымся, дык з Ім і радавацца

[25] Апак. 2, 19.
[26] II Кар. 6, 4 і наст.
[27] Мат. 13, 44.
[28] Мат. 10, 37 і наст

будзем. Калі адцураемся, то і Ён адцураецца нас: калі мы няверныя, Ён астаецца верным, бо ня можа ад сябе Самога адрачыся“ [29].

Гэтую бацькаўскую заахвоту, любыя сыны, ня можам на Нашу думку ўзмоцніць і закончыць больш адпаведным спосабам, як напамінаньнем таго самага апостала: „Зважайце, стойце ў веры, паступайце мужна і мацуйцеся“ [30]. „Слухайцеся вашых настаўнікаў“ [31], Біскупаў і сьвятароў, калі прыказваюць вам у справах вашага збаўленьня і паводля прыпісаў Царквы; а ўсім, што якім колечы чынам пасягаюць на вашу веру, бадзёра супраціўляйцеся, „стараючыся захаваць еднасьць духа ў саюзе міру. Адно цела і адзін дух, як вы і пакліканы да аднае надзеі вашага закліканьня“ [32]. І між усякага роду цярпень і прыгнечаньня памятайце, „што цярпеньні цяперашняга часу недастойныя тае славы, што мае абʼявіцца ў нас“ [33]. „Верны-ж Бог, які ўмацуе вас і захавае вас ад злога“ [34].

З пэўнаю надзеяю, што гэтай Нашай заахвоце адкажаце, з помаччу Божае ласкі, сільна і ахвотна, жадаем Вам лепшых і спакайнейшых часоў ад Айца літасьці і Бога ўсякага пацяшэньня [35] і гэтага ўмільна молім.

На задатак нябесных ласк і на пасьведчаньне Нашае добраспагаднасьці з паўнаты сэрца кожнаму з вас, Дастойныя Браты, і вашым стадам, а ўжо асаблівым спосабам біскупам грэка-каталіцкае Царквы, сьвятаром і ўсім вернікам удзяляем Апостальскае Багаславеньне.

Дана ў Рыме, у сьв. Пятра, дня 23 месяца сьнежня 1945-га і 7-га Нашага Пантыфікату.

ПАПА ПІЙ XII

[29] II Цім. 22, 11 і наст.
[30] I Кар. 16, 13.
[31] Жыд. 13, 17.
[32] Еф. 4, 3-4.
[33] Рым. 8, 18.
[34] II Сал. 3, 3.
[35] ГЛ. II Кар. 1, 3.